## Са стадыёна – у міліцыю

**Больш за 10 чалавек былі затрыманыя міліцыяй 8 чэрвеня ў Мінску пасля заканчэння футбольнага матча паміж зборнымі Беларусі і Шатландыі.**

Уся віна арыштаваных заключалася ў тым, што падчас матча яны ўзнялі на стадыёне нацыянальныя сцягі. Міліцыянты абвінавацілі хлопцаў у выкарыстанні незарэгістраванай сімволікі і выкрыкванні антыпрэзідэнцкіх лозунгаў (як вядома, на матчы прысутнічаў Лукашэнка). Маладых людзей усю ноч трымалі ў пастарунках і на наступны дзень даставілі ў раённыя суды Мінска, якія пакаралі іх штрафамі.

Кіраўніцтва БНФ «Адраджэньне» распаўсюдзіла з гэтай нагоды спецыяльную заяву з заклікам да брытанскай і міжнароднай грамадскасці асудзіць дзеянні рэжыму Лукашэнкі, які рэпрэсіямі супраць сваіх грамадзянаў азмрочыў Тыдзень Вялікабрытаніі ў Беларусі.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**



# Беларусь гарыць ад ВІЧ-інфекцыі

*(Пачатак на стар. 1)*

Спецыялісты сцвярджаюць, што ВІЧ-інфіцыраваныя наркаманы хутчэй паміраюць ад іншых прычын (напрыклад, перадазіроўкі наркотыка), чым ад СНІДу. Аднак сярод 15 зарэгістраваных хворых на СНІД ёсць і наркаманы. Вылечыць іх немагчыма — медыцына яшчэ не ўмее гэтага рабіць. Аднак ёсць лекі, якія стрымліваюць развіццё віруса. Найбольш эфектыўныя выпускаюць швейцарскія і амерыканскія фірмы. Курс аднаго лячэння на год каштуе ажно 10—15 тысяч долараў. Нашае міністэрства аховы здароўя (у адрозненне ад расійскага) не можа закупіць гэтыя лекі па шэрагу прычын. Папершае, фірмы афіцыйна не рэгіструюць медыкамент у нашай краіне, бо сертыфікацыя каштуе вельмі дорага. Па-другое, фірмы скептычна адносяцца да рынку збыту ў Беларусі. Ні грамадзянам, ні дзяржаве купіць такія лекі «не па кішэні». Эфектыўны медыкамент распрацавала і нашая Акадэмія навук, але ён яшчэ не прайшоў лабараторных даследаванняў.

Хворыя на СНІД звычайна лечацца дома, і толькі пры неабходнасці (вострай інфекцыі, запаленні лёгкіх ці апендыцыце) Рэспубліканскі цэнтр прафілактыкі СНІД накіроўвае іх у бальніцу. ВІЧ-інфіцыраваных стала так шмат, што спецыялізаваная рэспубліканская інфекцыйная бальніца ў Мінску не ў стане ўсіх абслужыць. Па распараджэнні міністэрства аховы здароўя хворых накіроўваюць у лякарні па месцы жыхарства. Як сцвярджаюць у Рэспубліканскім цэнтры, урачы маюць усё неабходнае, каб засцерагчыся ад інфекцыі. Між тым лячэбныя ўстановы іншы раз вельмі неахвотна прымаюць, а то і адмаўляюцца лячыць такіх пацыентаў: медыкі не хочуць мець ніякага кантакту з носьбітамі вірусу.

У адной з мінскіх клінік быў выпадак, калі на лячэнне з дыягназам «запаленне лёгкіх» паступіла маладая дзяўчына — па чужым пашпарце. Яна жыхарка Светлагорска, наркаманка, і мясцовая гарадская бальніца адмовілася брацца не на стацыянарнае лячэнне. Таму дзяўчына паспрабавала трапіць на бальнічны ложак па дакументах сваёй стрыечнай сястры-мінчанкі.

Асобная праблема — хірургічныя аперацыі. Натуральна, ніхто не трымае скальпель або іголку голымі рукамі, але хірургі-практыкі сцвярджаюць, што ў сярэднім падчас кожнай пятай аперацыі гумовыя пальчаткі рвуцца або здараецца незнарок пакалоць пальцы хірургічнай іголкай. *«Канечне, мы ўсе далі клятву Гіпакрата і павінны ратаваць кожнага чалавека,* — кажа жанчына-хірург, якая пажадала застацца неназванай. — *Але ў мяне сям'я, дзеці, і я не хачу, не магу рызыкаваць сваім жыццём дзеля хворага на СНІД, які ўсё роўна памрэ, бо медыцына тут пакуль што бясСільная».* Гэтая доктар паведаміла, што ёй ужо даводзілася аперыраваць двух ВІЧ-інфіцыраваных, усё прайшло добра, але больш яна рызыкаваць не стане. На яе думку, дзяржава павінна прадугледзець сістэму страхоўкі для медыкаў, якія працуюць з носьбітамі ВІЧ-інфекцыі.

Сапраўды, выпадкі бываюць усялякія. Напрыклад, у адной з бальніц Гомельскай вобласці медсястра зрабіла ўкол ВІЧ-інфіцыраванаму, а потым, гідліва несучы шпрыц двума пальцамі перад сабой — каб выкінуць у сметнік, выпадкова ўкалола ім сваю калегу. Прайшло няшмат часу, вынік пакуль невядомы, але ёсць верагоднасць, што ў яе раЗаецца ВІЧ-інфекцыя.

Эпідэмія набірае абароты, і СНІДам можна заразіцца там, дзе не чакаеш. Межы «групаў рызыкі», куды традыцыйна залічвалі наркаманаў, гомасексуалістаў і прастытутак, становяцца ўсё больш празрыстымі.

**Мікалай ВАЙТОВІЧ**





*На здымку: апошнім часам на вуліцах Мінска часта можна пабачыць таджыкскіх жанчын з дзецьмі, якія просяць міласціну.*

Безумоўна, шкада гэтых людзей, якія пакінулі свае дамы і паселішчы. Але ёсць і іншы бок праблемы.

Паводле неафіцыйных звестак, на тэрыторыі Беларусі цяпер знаходзіцца звыш 300 тысяч так званых нелегалаў — уцекачоў з «гарачых кропак» ды проста шукальнікаў лепшага жыцця з афра-азіяцкіх краінаў, якія імкнуцца нелегальна перабрацца на Захад. Дзякуючы празрыстай мяжы з Расіяй нашая краіна ператвараецца фактычна ў прахадны двор.

# Не будзе рынку – эканамічны крызіс захаваецца

**На думку большасці беларускіх прадпрымальнікаў і прамыслоўцаў, асноўнай прычынай эканамічнага крызісу ў краіне з'яўляецца адсутнасць рэальных рынкавых рэформаў.**

Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПД) правёў апытанне лідэраў беларускага бізнесу, якія прадстаўляюць як дзяржаўныя, так і недзяржаўныя прадпрыемствы. Рэспандэнтам, у прыватнасці, было прапанавана адказаць на пытанне, як змяніліся за апошнія два гады ўмовы для эканамічнай дзейнасці ў Беларусі. Амаль палова апытаных (45%) лічыць, што ўмовы для эканамічнай дзейнасці значна пагоршыліся. На думку 24% рэспандэнтаў, умовы *«крыху пагоршыліся»*. І толькі 2% апытаных лічаць, што ўмовы для эканамічнай дзейнасці Беларусі *«значна палепшыліся»*.

Адказваючы на пытанне, у чым заключаюцца асноўныя прычыны эканамічнага крызісу ў Беларусі, большасць бізнесменаў (78%) паказала на адсутнасць рэальных рынкавых рэформаў. Амаль палова рэспандэнтаў звярнула ўвагу на неспрыяльны інвестыцыйны клімат (47%) і адсутнасць кваліфікаваных спецыялістаў, здольных правадзіць рэформы (46%). Трэць апытаных паскардзілася на разрыў старых гаспадарчых сувязяў (36%) і на тое, што насельніцтва не гатовае да рынкавых рэформаў (34%).

*БелаПАН*

# «Нёманам» зацікавіліся фіны

**У польскім горадзе Сувалкі адбылося падпісанне канчатковых дакументаў аб стварэнні трансгпамежнага еўрарэгіёна «Нёман».**

Гэтае пагадненне трохбаковае — польска-літоўска-беларускае. З нашага боку ў ім удзельнічае Гродзенская вобласць. Мэта праекта — арганізацыя супрацоўніцтва па развіцці рэгіянальнага гандлю, культурных абменаў, прыцягненні інвестыцыяў і экалагічнай бяспекі басейна Нёмана — адной з галоўных рэк, што нясуць воды ў Балтыку.

Пэўнай сенсацыяй стала тое, што ў саюз пакуль не ўвайшла Калінінградская вобласць РФ, улады якой папярэдне планавалі ўзяць удзел у стварэнні еўрарэгіёна «Нёман». Расіяне пакуль што засталіся на правах назіральніка. Кіраўнік управы па міжнародных сувязях адміністрацыі Калінінградскай вобласці В.Рамановскі патлумачыў, што прычына толькі ў тым, што ім не хапіла часу, каб узгадніць усе дакументы на *«федэральным узроўні»*, а ў Маскве ёсць і іншыя клопаты.

Трансмежны саюз адкрыты для іншых краін. Зацікаўленасць ужо выказала Фінляндыя, прадстаўнік якой прысутнічаў на цырымоніі ў Сувалках. Асабліва актуальным для фінаў уяўляецца супрацоўніцтва ў экалагічнай сферы.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

*ШКОЛА*

# Рэформа адукацыі: першыя непапулярныя крокі

**За школьныя падручнікі цяпер давядзецца плаціць бацькам. Гэтым непапулярным крокам пакуль што і абмяжоўваецца рэформа сістэмы адукацыі. Пытанне аб пераходзе на пяцідзённы тыдзень навучання ў школах яшчэ не вырашанае.**

А ўсяго нававядзенняў рыхтуецца шмат: новыя праграмы, новыя падручнікі, 12-гадовы тэрмін навучання, пяцідзённа з адначасовым скарачэннем канікулаў, свабода эксперыментатарства на асобных «пляцоўках» — спецыяльна вызначаных школах, дзе будуць адпрацоўвацца новыя адукацыйныя мадэлі. Па задуме ініцыятараў рэформы, да 2000 года трэба закончыць з асноўнымі арганізацыйнымі пытаннямі і ўжо ў пачатку трэцяга тысячагоддзя выпрацоўваць на новай тэхналогіі новы «прадукт» — маладога чалавека, які па адукацыйным узроўні і маральных якасцях будзе адпавядаць самым высокім патрабаванням.

Але здзяйсненню лепшых планаў перашкаджае, як заўсёды, сумная рэчаіснасць. Гэта не толькі адсутнасць грошай (любая рэформа патрабуе дадатковага фінансавання), але і так званы чалавечы фактар. Чаго каштуе хаця б раптоўнае жаданне прэзідэнта ў пажарным парадку ўвесці пяцідзёнку ў школах. Аднак спецыялісты міністэрства адукацыі здолелі пераканаць прэзідэнцкіх дарадцаў не спяшацца з гэтым складаным пытаннем.

### Вяртанне ў сямідзесятыя

Прапанову вярнуцца крыху назад да праблемы ўвядзення пяцідзёнкі, якая дагэтуль не вырашана, і спыніцца на тым, што ўжо стала фактам.

У адпаведнасці з пастановай Савета міністраў, з 1 верасня бацькі будуць аплочваць чвэрць кошту падручнікаў. Паводле папярэдніх разлікаў, гэта складзе ад 150 тысяч для малодшых класаў да 250 тысяч для старшакласнікаў. Ад аплаты будуць вызваленыя толькі бацькі-інваліды. Не будуць плаціць за падручнікі і сем'і з даходам менш чым тры мінімальныя заробкі на чалавека, а сем'і з трыма і больш дзецьмі заплацяць толькі палову ад вызначанага памеру аплаты.

Увядзенне аплаты за падручнікі чыноўнікі тлумачаць тым, што ў бюджэце не стае грошай, каб на ранейшым узроўні фінансаваць сістэму адукацыі, і ўрад вырашыў перанесці частку фінансавай нагрузкі за навучанне дзяцей на іхніх бацькоў. У міністэрстве адукацыі такую меру называюць зразумелай ды своечасовай і адсылаюць крытыкаў да вопыту суседніх краінаў. *«Не кажучы ўжо пра еўрапейскія краіны, усе нашыя суседзі, напрыклад Расія і Украіна, ужо перайшлі на аплату падручнікаў бацькамі»,* — сцвярджае дарадца міністра адукацыі Мікалай Ліс. На пытанне, чаму з'явілася лічба менавіта ў 25% ад кошту камплекта падручнікаў, ён адказвае проста: *«Падручнікамі карыстаюцца 3–4 гады. Дзелім кошт камплекта падручнікаў на чатыры, вось і набягае 25%».* Такім чынам, гаворка ідзе пра своеасаблівую арэнду, з дапамогай якой бацькі паступова цалкам аплацяць кошт усіх падручнікаў, а дзяржава поўнасцю складзе з сябе гэты абавязак.

Па вялікім рахунку, самім педагогам без розніцы, хто будзе плаціць за падручнікі — дзяржава ці бацькі. Яны спадзяюцца, што ў апошнім выпадку вучні будуць больш беражліва ставіцца да кніжак, з якіх набываюць веды. Затое іх турбуе тое, у што ператворыцца школа, калі пачне ажыццяўляцца новая пастанова. Кожны класны кіраўнік непазбежна стане бюракратам-канцылярыстам, бо менавіта на яго будзе ўскладзены абавязак збіраць і правяраць даведкі, якія панясуць у школу бацькі, каб атрымаць ільготы па аплаце падручнікаў. Дарэчы, яшчэ ў 70-х гадах падручнікі былі платнымі, але льготнікаў не існавала, і класным кіраўнікам не прыходзілася займацца бухгалтэрыяй ды канцылярыяй. Цяпер, хочаш — не хочаш, а давядзецца.

### Чаму «шэсць лепш за пяць»

А цяпер звернемся да пытання аб увядзенні пяцідзёнкі і агульнага скарачэння тэрміну канікул. Як удалося даведацца, раптоўная рэалізацыя гэтых планаў натыкаецца на пазіцыю міністэрства аховы здароўя.

*«Сапраўды, мы не пагаджаемся на пераход да пяцідзёнкі з адначасовым скарачэннем канікулаў без папярэдніх вучэбных планаў»,* — пацвердзіў кіраўнік упраўлення гігіены і эпідэміялогіі міністэрства аховы здароўя Фёдар Германовіч. А галоўны спецыяліст гэтага ўпраўлення Галіна Лосева патлумачыла, чаму медыкі супраць прапановаў мінадукацыі. Па яе словах, цяпер пераход на пяцідзёнку магчымы хіба што для вучняў 1–4 класаў, а што тычыцца 5–8 класаў і старэйшых, то тут *«вялікая рызыка атрымаць парушэнне дынамічнага стэрэатыпу». «Вы ўзгадайце, як адчуваюць сябе пасля выходных, якія цягнуліся не два дні, як звычайна, а ўсе чатыры? Вось такімі ж выбітымі з прывычнай каляіны будуць увесь год і вучні»,* — лічыць Галіна Лосева.

Па яе звестках, мінадукацыі плануе такі рытм навучання: першую і чацвёртую чвэрці дзеці будуць займацца па пяць дзён на тыдзень, а другую і трэцюю, як раней, — па шэсць. Затое агульны памер канікулаў на працягу вучэбнага года скароціцца з 30 дзён да 20, а летнія канікулы пачнуцца ў сярэдзіне чэрвеня. *«На перагрузкі, якія ўзнікнуць з-за такога рванага рытму, накладваюцца асаблівасці ўзросту, калі пачынаецца полавае выспяванне. Апошнім часам здароўе нашых дзяцей і без таго пагаршаецца, і мы думаем, што такія раптоўныя змены могуць пагоршыць становішча»,* — гаворыць Галіна Лосева.

Міністэрства аховы здароўя прапанавала міністэрству адукацыі пераходзіць на пяцідзёнку шляхам эксперыменту спачатку толькі ў некаторых школах. За час гэтага выпрабавання (як мінімум 2 гады) мяркуецца падрыхтаваць новыя праграмы і прыстасаваць іх да патрэбаў школ з улікам іх спецыялізацыі. Але мінадукацыі нібыта не пагаджаецца на прапанову медыкаў і не губляе надзеі, што праект увядзення «пяцідзёнкі» ўдасца расцягнуць ужо з 1 верасня ці хаця б з наступнай вясны.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

# Ложь крепчает год от года

## *А вместе с ней растут и цены*

**Геннадий КАРПЕНКО**

Официальные средства массовой информации каждый день твердят об улучшении экономической ситуации в Беларуси. Называются предприятия-передовики, в радужных красках рассказывается о мудрых указах и великой помощи САМОГО в обеспечении дизельным топливом и кредитами каждого отдельно взятого тракториста и молодой семьи, предприятия и колхоза. Обласканные «батькиной» заботой и вниманием, выстроились они в длинную очередь на радио и телевидение со словами великой благодарности за подмогу. Да что там кредиты, бесплатные удобрения — ведь, если надо, то президент и погоду нужную даст. Посылал же Брестской области дожди, а сейчас вот и лето пришло. Так и хочется сказать: «Зима прошла, настало лето. Спасибо, батька, вам за это!»

Наслушавшись об успехах «рыночного социализма», домохозяйка с надеждой идет в магазин. Но вместо снижения цен (в соответствии с объявленными успехами) видит там совершенно иную картину: цены снова взлетели. «Неужели нельзя их вернуть обратно, — недоумевает электорат. — Ведь один раз уже возвращал, а сколько раз обещал, что цены больше расти не будут...»

Я воздержусь от привычных комментариев и прогнозов, а приведу лишь цифры, которые помогут нашим гражданам самим разобраться, куда мы движемся, что ждет нас впереди и как выглядит экономическая ситуация в других странах СНГ.

Итак, за четыре месяца с начала 1997 года цены на **промышленную продукцию** выросли: Беларусь — на 69%, Азербайджан, Армения — на 16%, Казахстан — на 19%, Россия — на 18%, Украина — на 10%.

На **продовольственные товары** цены поднялись: Беларусь — 28,6%, Азербайджан — 5,6%, Армения — 7,8%, Казахстан — 4,7%, Россия — 7%, Украина — 6%.

В Беларуси рыбопродукты подорожали на 29%, хлебобулочные изделия — на 32%, мука — на 37%, масло — на 41%, сахар — на 48%, фрукты — на 38%, овощи — в 2,1 раза.

Цены на **одежду и белье** возросли в Беларуси на 15%. В остальных странах СНГ их рост не превышал 1–4%.

Цены на **обувь** выросли в Беларуси на 14%, в остальных странах СНГ — на 2–5%.

**Ткани** подорожали в Беларуси на 11%, в странах СНГ на 1—2%.

Самый высокий прирост цен на **бытовые электротовары** отмечен в Беларуси — 42%.

Цены на **бензин** выросли в Беларуси на 52%, в Казахстане — на 18%, Таджикистане — на 14%, в России, Молдове — на 5%, в Кыргызстане и Армении они снизились на 15% и 4% соответственно.

Самый высокий прирост цен на **стройматериалы** отмечен в Беларуси — 29%, в Казахстане и России — 1%.

В Беларуси самый высокий рост цен на все виды **бытовых услуг** — 36%. Тарифы на электричество возросли на 61%, на газ — на 76%, на проезд в общественном транспорте — на 40%.

Плата за **пребывание детей в дошкольных учреждениях** выросла: в Беларуси — на 50%, Армении — на 34%, Казахстане — на 24%, России — на 10%, в Азербайджане не увеличилась.

Плата за **проживание в гостинице** увеличена в Беларуси на 40%, Армении — на 9%, России — на 8%, Казахстане — на 6%.

При этом **средняя заработная плата** в апреле 1997 года относительно апреля 1996 года в Беларуси уменьшилась с 89 до 74 долларов США, т.е. на 17%. В России она составляет 150 долларов, на Украине выросла с 76 долларов до 92 долларов, в Казахстане выросла с 99 до 113 долларов.

**Курс национальных валют** за четыре месяца по отношению к доллару уменьшился в Беларуси — на 71%, Армении — на 12%, России — на 3,6%, Казахстане — на 1,9%. В Азербайджане, Молдове и Украине курс национальных валют вырос от 1,1% до 2,5%.

Такова официальная статистика по странам СНГ. Выводы делайте сами.

# Зарплата: задержки стали нормой

**Пропагандисты утверждают, что работники Беларуси регулярно получают заработную плату. На самом деле это далеко не так.**

В канун нынешнего года, например, сумма невыплаченной зарплаты составляла 472,6 млрд. рублей, а уже к началу лета она превысила 700 млрд. рублей. При этом удельный вес общей задолженности в фонде заработной платы последнего отчетного месяца остается стабильным и колеблется около отметки в 13%. Это значит, что проблема приобрела хронический характер и не может быть решена такими «дежурными» методами, как ужесточение контроля, повышение дисциплины и ответственности.

Проблема в том, что денег нет. Например, к концу мая трудящиеся не получили 600 млрд. рублей из апрельского фонда заработной платы (ФЗП), и почти 100 млрд. рублей составляла задолженность за предыдущие месяцы. Если в качестве критерия взять среднюю начисленную зарплату, то число работников, чей кошелек остается пустым в день получки, равняется примерно 400 тысячам человек. Но их гораздо больше, поскольку средние и более высокие по размеру зарплаты начисляются на относительно благополучных предприятиях, где зарплату выплачивают более-менее регулярно.



*На снимке: будем сидеть, пока не дадут «получку».*

На менее благополучных задержки с выплатой достигают нескольких месяцев. В первую очередь это относится к колхозам и совхозам. В колхозах к началу лета выплатили всего 1/3 ФЗП за апрель (следовательно, без денег осталось около 2/3 колхозников). В совхозах выплачено немногим более 1/3, примерно столько же на предприятиях Минсельхозпрода, в системе Минпрома — 17%, в строительно-монтажных организациях — 17,5%. Выплату задерживают почти во всех отраслях, за исключением железной дороги и топливно-энергетических предприятий.

Среди организаций бюджетной сферы зарплату регулярно выплачивают госчиновникам. Но в научных институтах, в учреждениях культуры, образования и здравоохранения задолженность составляла от 1,9 до 5,6% апрельского ФЗП.

Среди регионов наиболее благополучной выглядит ситуация в столице, где задолженность составляла около 4%. Хуже всего обстоят дела на Могилевщине: там народу задолжали 22 процента зарплаты. Эта область, судя по всему, может, подобно российскому Приморью, стать зоной социального бедствия, хотя и в других областях задолженность превышает 10%.

Излишне говорить, что ничто так не раздражает работника, как «отмена» получки. Особенно, если это происходит на фоне демагогических заявлений о всемерной заботе государства о благе «людей труда». Да, телемонологи в исполнении нашего президента воспринимаются многими как «вещь посильнее Фауста», но и кукиш вместо получки обладает огромной потенциальной энергией. Чье биополе окажется сильнее — покажет будущее.

И последнее. Наше государство до сих пор проводит политику жесткого регулирования экономики и напрямую управляет большинством предприятий и отраслей. От этого страдают все, но, как можно убедиться, сельчане больше всего: деревня стала настоящей заложницей всех продуманных и непродуманных мер, тщеславных желаний и политических игр. Это тем более прискорбно, что вся наша так называемая политическая элита выросла на родительских «кабанчиках», но, перебравшись в столицу, превратила вёску в настоящую резервацию. Убедиться в этом легко. Достаточно на несколько километров выехать за пределы Минской кольцевой дороги. В любую сторону: везде можно увидеть если не заброшенный «Маяк камунізму», то заросший чертополохом «Ленінскі шлях» наверняка.

**Константин КАШЕЛЬ**

# О принципах, поросятах, редьке с хреном и дырке от бублика

Давно подмечено, что жизнь гораздо богаче всяких представлений о ней, а героизм в политике заканчивается хозяйственной разрухой. В Беларуси несколько лет назад новые теоретики сменили старых, и, соответственно, одна научная идеология уступила место другой, более научной. Имя главного нового идеолога, что называется, у всех на слуху. И при всей своей неординарности он до боли похож на своих предшественников.

Старых и новых теоретиков объединяет принцип. Название ему — вера в собственную непогрешимость и право требовать такой же веры от всех других. Для этого все идет в ход: в ранг идеологии возводится «православный атеизм», политические приемы заимствуются у самых одиозных политиков, на несогласных навешиваются фантасмагорические ярлыки типа «вшивых блох», страна населяется предателями, а остальной мир врагами Беларуси и Самого лично.

Прямое правление пока еще не регулирует интимную жизнь подданных непосредственно, но каждая семья уже чувствует на себе пристальное внимание власти. Родителей привлекают к ответственности за поведение их отпрысков в дни праздников, детей заставляют вступать в какие-то организации, студентов исключают из вузов. Уже практикуются запреты на профессию, а демонстрация лояльности стала обязательным условием сохранения службы.

Власть сажает несогласных в тюрьмы, поспешные и услужливые суды выносят обвинительные приговоры, что называется «на адзін капыл». Модными стали ненатурально большие штрафы, по нескольку десятков миллионов, в то время как многим приходится выбирать: идти на работу пешком, или ехать «зайцем». Может, проще было бы расстреливать?

Конечно, представления о демократии в народной гуще, мягко говоря, своеобразные. Но, как говорят французы, от прикосновений к кумиру на чужих пальцах остается его позолота. Поэтому Сам, обуреваемый соблазном «непосредственного» общения с народом по телевидению здорово рискует. Ведь всякий раз приходится что-то обещать, но эффектные и простые результаты вроде ареста недавно приставленной к денежному мешку фаворитки или публичной порки министра есть, а эффективных решений из-под героя нет, как и не было .

Поэтому не все так прискорбно, как кажется. Любовь эмоциональна и рациональному объяснению не поддается, но подмечено, что там, где кипят страсти, наступает хозяйственное расстройство. В героические эпохи народу живется скверно. И когда проходят чувства, у народа не остается врага страшнее бывшего кумира, и он всем своим поведением приближает конец героической эпохи.

Место героизма на баррикадах, а вот в хозяйственной жизни он неуместен. Потому что, как говаривал профессор Преображенский, герои в повседневной жизни норовят пускать струю мимо писсуара. Простой человек, будь то инженер или торговец, позволить себе этого не может.

Приведу два примера. В начале своего срока Сам запретил вывозить продовольствие в Россию без соответствующего чиновничьего благословления. Затем он выкопал столбы на границе, но Россия белорусскому «мясу-салу» предпочла американские куриные окорочка, что позволяло прожить в относительной сытости, хотя и во вред славянскому единству. Теперь же за интеграцию принялись сами крестьяне, продавая поросят российским перекупщикам, поскольку те дают намного больше, чем могут заплатить наши селяне, чтобы вырастить кабанчика к зиме.

И правильно делают, что продают розовые пятачки «на сторону». Если белорусская власть не позволяет людям заработать, то почему бы не взять деньги у смолян и москвичей. И зарплата, и пенсии там, особенно в Москве и Подмосковье, гораздо выше нашенских. Так что традиционный для купеческих застолий поросенок с хреном придет к новым русских, а нам останутся разве что редька с хреном. Мы ведь люди принципиальные, а поросятину едят люди денежные. И славянское единство тут, что называется, ни при чем.

Второй пример. На улицах белорусских городов развернулась бойкая торговля салом и другими «свинокопченостями». Продавцы говорят, что именно салом им выдают зарплату. Лукавят, конечно. Сало это в основном польское. Просто у поляков несколько иное представление о принципах, поэтому этот продукт там дешев. Жители Гродно и Бреста импортируют его в частном порядке, коптят «по домашнему» и везут в столицу и далее, продавая по ценам более низким, чем в наших магазинах. И правильно делают.

Иными словами, в экономическом поведении населения просматривается рациональный смысл, который напрочь отсутствует в «большой политике». И это тоже принцип, который никому не удавалось опровергнуть. Перефразируя Анатоля Франса, можно сказать: наш Сам герой, а герои последними узнают об изменах своих жен. Народная любовь бывает слепой и безмерной, но никогда вечной. И больше всего народу не нравится, когда ему достаются раз вершки, раз корешки, но всегда малосъедобные: то хрен, то редька, то дырка от бублика.

**Константин СКУРАТОВИЧ**

КАДРЫ

## «Ты же обещал, Григорьевич!..»



## «Куцейна» – незалежная газета ў Оршы

**Выйшаў у свет першы нумар аршанскай грамадска-палітычнай штотыднёвай газеты «Куцейна».**

Яе заснавальнікам выступіў рэгіянальны цэнтр дэмакратычных пераўтварэнняў імя Філона Кміты — аршанскага военачальніка і першага пісьменніка Оршы 16-га стагоддзя. Галоўная мэта членаў гэтай арганізацыі — падтрымка і развіццё асноваў грамадзянскай супольнасці ў сваім рэгіёне.

Газету ўзначаліў Віктар Андрэеў — лідэр мясцовай арганізацыі Свабоднага прафсаюза Беларусі. У першым нумары «Куцейны» апублікаваны матэрыялы, датычныя стварэння Саюза Беларусі і Расіі, праблемаў беларускай нацыянальна-гістарычнай спадчыны і рэформаў у эканоміцы краіны. Практычна палову нумара займае інфармацыйны выпуск аршанскага маладзёжнага аб'яднання «Рша» — альтэрнатыўнага Беларускаму патрыятычнаму саюзу моладзі.

*БелаПАН*

## Сапраўды волат!

**Уладзімір Савельеў з Бабруйска з 10 да 18 гадзін здолеў папераменна правай і левай рукой узняць пудовую гіру ажно 8.015 разоў.**

Гэтае спартыўнае дасягненне Уладзімір ажыццявіў на конкурсе «Фітнэс-мадэль 97», што ладзіўся ў Бабруйску. Агульная вага, узнятая волатам, — каля 130 т.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

КРЫМІНАЛ

## Спірт шукае опербрыгада

*Восем аўтафургонаў са спіртам дзёрзка захапілі ў Гродзенскай вобласці невядомыя злачынцы*

Сем суперМАЗаў і КамАЗ, якія везлі 200 тон спірту, перасеклі літоўска-беларускую мяжу і былі часова затрыманыя Астравецкай мытняй. Выклікаў падозранні далейшы маршрут аўтакалоны і некаторыя іншыя акалічнасці. Спірт належаў адной грузінскай фірме.

Машыны з грузам знаходзіліся пад ахавай міліцыянта і двух вартаўнікоў у лесе на базе Астравецкага райаграпрама. Ноччу адбыўся напад, ахоўнікаў нападаючыя звязалі, а машыны са спіртам былі ўгнаныя. Па гарачых слядах міліцыя адшукала ў Гярвяцкім сельсавеце Астравецкага раёна ўжо разгружаныя два суперМАЗы. Пазней непадалёк ад Астраўца быў знойдзены таксама пусты КамАЗ. Паколькі ад дня здарэння мінула 10 дзён, дык цалкам магчыма, што спірт ужо апынуўся за беларуска-расійскай мяжой.

Расследаваннем здарэння, зважаючы на дзёрзкасць нападу і буйныя маштабы грузу, займаецца опербрыгада з міністэрства ўнутраных справаў, якую ўзначальвае адзін з кіраўнікоў крымінальнага вышуку краіны.

**Віктар ЛАПІЦКІ**

## Співакоў адзначыў талент магілёўскіх сясцёр

**Міжнародны дабрачынны фонд сусветнавядомага скрыпача і дырыжора Уладзіміра Співакова прысудзіў свае прэміі 1997 года юным магілёўскім музыкантам — сёстрам Маісеевым.**

Сашы — 14 гадоў, Дашы - 10. Падчас гастроляў вялікага маэстра ў Магілёве дзяўчынкі выканалі яму «Накцюрн» Пятра Чайкоўскага і «Паэтычныя карцінкі» Эдварда Грыга. Па словах педагога таленавітых сясцер Алены Міхалёнак, *«яны з ахвотай працуюць па 5–8 гадзін у дзень, шліфуючы свае майстэрства»*. Аматарам музыкі можна чакаць вялікіх дасягненняў ад юных магілёўскіх стыпендыятак.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Буслы прыляцелі. І белыя, і чорныя

**Незвычайна вялікая колькасць белых буслоў прыляцела гэтай вясной у Быхаўскі раён Магілёўскай вобласці.**

Паводле ацэнак інспекцыі па ахове прыроды, цяпер у раёне паўтары тысячы гэтых птушак, якія, паводле павер'я, прыносяць людзям шчасце.

Акрамя таго, упершыню за апошнія некалькі год у лясах Быхаўшчыны спыніліся і 6 рэдкіх чорных буслоў, якія даўно знаходзяцца ў айчыннай і міжнароднай Чырвоных кнігах. Чорныя буслы і іхнія гнёзды ўзятыя пад ахову.

У народзе кажуць, што менавіта буслы прыносяць дзяцей. Можа, цяпер у Быхаўскім раёне стане больш дзетак? Дай Бог!

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Юбілей бабруйскіх вінакураў

**Стогадовы юбілей адзначыў Бабруйскі завод вінаградных напояў — адзін са старэйшых у Беларусі.**

Сваю гісторыю завод пачынаў як царскае казённае прадпрыемства з магутнасцю 180 тысяч вядзёр у год. За ўвесь час існавання прадпрыемства спынялася толькі ў перыяд войнаў і рэвалюцыяў.

Складана перажыў завод славутую гарбачоўскую антыалкагольную кампанію ў сярэдзіне 80-х, а ў пачатку 90-х амаль удвая скараціліся аб'ёмы вытворчасці ў сувязі з эканамічным крызісам. Але ж, пашырыўшы асартымент, асвоіўшы выпуск арыгінальных настоек і нават экзатычных напояў кшталту джыну, за апошні час заводу ўдалося па агульных паказчыках амаль дасягнуць дакрызіснага ўзроўню.

**Іван ЗАСАДА**

ПАРАДЫ

## Абед – гэта не гульня

*Не рабіце з ежы забаўку для дзяцей*

Цяжка ўявіць сабе дарослага чалавека, які б пастаянна і ўпарта адмаўляўся снедаць, абедаць і вячэраць. Але многія прызнаюцца, што ў дзяцінстве ненавідзелі суп, адмаўляліся ад кашы, хавалі ад нянечкі ў дзіцячым садку катлеты ў кішэні штонікаў...

Цяпер смешна ўзгадваць «залатое дзяцінства», а вось тады, пагадзіцеся, вашым выхавацелям — а перадусім мамам і татам — было не да жартаў. Факт, што дзіцячыя «застольныя капрызы» з цягам часу праходзяць самі сабой. Але таксама факт, што капрызлівае дзіця, пакуль вырасце, паспее моцна папсаваць бацькам нервы.

Амерыканскія псіхолагі, вывучаючы праблему, заўважылі, што «капрызлівыя едакі» сустракаюцца чамусьці толькі ў «еўрапейскіх» па паходжанні сем'ях. Гэтая з'ява невядомая ва ўсходніх культурах. А значыць, карані праблемы — у еўрапейскіх культурных традыцыях.

Паназіраем за тым, як праходзіць «працэс прыняцця ежы» зусім маленькага еўрапейца. «Бібіп! Машынка едзе! Адкрывай варотцікі!» — гаворыць матуля, падносячы да рота малому поўную лыжку. Зачараванае гульнёй дзіця і не заўважае, якую страву яно пры гэтым спажывае. Яшчэ адна папулярная гульня — «Лыжачку за маму! Лыжачку за тату!» — таксама адцягвае ўвагу малога ад ежы, бо спажыванне супу становіцца ледзь не спосабам даказаць любоў. А калі пачынаецца гандаль кшталту «Адну лыжку з'есць мама, другую — Насця», — тут ужо і сама маці пазбаўляе сябе нармальнай магчымасці спакойна паесці.

Так з пялёнак дзіця пачынае ўспрымаць снеданні і абеды як гульню ці забаву, і за сталом імкнецца атрымаць асалоду зусім не ад смачнай і карыснай ежы, а ад працэсу «застольнай гульні». Часцей за ўсё гэта выліваецца ў бясконцае сядзенне над талеркай, у капрызы: «Гэтага не буду! Тое не хачу!», а часам і ў поўную адсутнасць апетыту, бо «проста» абед дзіця падсвядома лічыць нецікавым, а значыць — нясмачным.

Спецыялісты пераканаўча раюць бацькам выхоўваць у дзяцей натуральныя адносіны да ежы. Людзі ядуць, каб не быць галоднымі, — і ніякіх гульняў. А калі вашае дзіця робіць выгляд, што гэтага не разумее, — усталюйце ў сваім доме строгі распарадак, прыстойныя правілы паводзінаў за сталом. Дайце дзіцяці зразумець, што ўся сям'я паважае гэтыя правілы, і ніхто тут не выключэнне. А калі нехта правілы парушае — няхай застанецца без абеду.

Не бойцеся: яшчэ ніводнае дзіця не памерла з голаду, назло маме адмаўляючыся есці. Вопыт паказвае, што, крыху пагаладаўшы, малыя хутка пачынаюць разумець, чаго ад іх чакаюць бацькі. Калі мама і тата будуць паслядоўна і спакойна, без крыкаў і скандалаў настойваць, каб дзіця нармальна ставілася да ежы ды як след паводзіла сябе за сталом, гэта абавязкова дасць станоўчы вынік.

**Ганна СЕНЕШ**

ГІСТОРЫЯ

## «Полацк – другі Іерусалім»

Старажытны Полацк на працягу многіх стагоддзяў быў буйным цэнтрам духоўнай культуры. Археолагі і гісторыкі зрабілі тут ужо шмат адкрыццяў, але пакуль што разгаданы далёка не ўсе полацкія загадкі. Даследчык старадаўніх храмаў Полацка Генадзь Лаўрэцкі апублікаваў нядаўна свае арыгінальныя думкі наконт гісторыі горада ў артыкуле «Полацк — другі Іерусалім» (часопіс «Архитектура и строительство», № 6, 1996).



*Полацкі храм Гроба Гасподняга. Малюнак паводле сярэднявечнай гравюры.*

Увагу Г.Лаўрэцкага прыцягнуў так званы храм на рве, які не захаваўся да нашых часоў, але добра вядомы па старадаўніх гравюрах. Гэты храм быў пабудаваны ў XII стагоддзі і моцна перабудаваны на мяжы XV—XVI стст. Даследчыка зацікавіла арыгінальная форма перабудаванага храма — яго ўсходняя частка была ўзведзеная ў выглядзе гіганцкага васьмікутнага «стаўпа», увянчанага шатром — востраканечным дахам у форме шматграннай піраміды.

Відавочна, полацкія дойліды выбралі такую форму невыпадкова, бо ў храмавай архітэктуры Сярэднявечча кожная дэталь мела глыбокі духоўны сэнс. Як сцвярджае Г.Лаўрэцкі, актагоны — васьмікутныя ў плане храмы — узводзіліся ў многіх краінах Еўропы як сімвалічнае паўтарэнне іерусалімскага храма Гроба Гасподняга. Сярэдневечныя багасловы лічылі Іерусалім — месца пакутаў і ўзнясення Ісуса Хрыста — цэнтрам свету, месцам духоўнага выратавання чалавецтва. Але Святы горад апынуўся пад уладаю мусульман, і еўрапейскія манархі неаднаразова рабілі спробы стварэння «новага Іерусаліма» — еўрапейскага цэнтра духоўнасці, і, каб падкрэсліць пераемнасць традыцый, захоўвалася архітэктурнае аблічча іерусалімскай святыні — актагон.

Менавіта ідэя «новага Іерусаліма», як лічыць Генадзь Лаўрэцкі, падштурхнула палачан да перабудовы свайго храма на рве. На мяжы XV—XVI стагоддзяў мара пра «новы Іерусалім» захапіла праваслаўных Вялікага княства Літоўскага. Нягледзячы на тое, што фактычна сталіцай ВКЛ была Вільня, у вачах праваслаўных яна не мела такога духоўнага значэння, як Полацк. Кіеў жа ў гэты час, фармальна захоўваючы ролю праваслаўнага цэнтра, на справе быў глыбокай правінцыяй ВКЛ. *«У такіх умовах менавіта Полацк, які меў мноства праваслаўных святыняў і рэліквій, быў здольны прыняць на сябе місію Другога Іерусаліма»*, — піша Г.Лаўрэцкі.

Па меркаванні даследчыка, уяўленне сучаснікаў аб Полацку як сімвалічнай духоўнай сталіцы, адыграла сумную ролю ў далейшым лёсе горада. Маскоўскі цар Іван Жахлівы, захапіўшы горад, учыніў страшэнны разгром. Як лічыць Г.Лаўрэцкі, знішчэнне полацкіх святыняў, абразоў, рукапісаў, хронік мела не толькі ваенны, рабаўніцкі сэнс. Масква ў той час таксама прэтэндавала на ролю «новага Іерусаліма», маскоўскі сабор Святой Тройцы нават называўся ў тагачасных дакументах «Іерусалімам». Жорсткае знішчэнне гістарычнай памяці полацкай зямлі мела на мэце ўзвышэнне Масквы як адзінага праваслаўнага духоўнага цэнтра.

Аднак аўтарытэт Полацка ў праваслаўных землях не згасаў ажно да XVII стагоддзя. Цікава, што тады, у часы праўлення цара Аляксея Міхайлавіча, была зробленая самая паслядоўная спроба стварэння «новага Іерусаліма» — пад Масквой, у манастыры на рацэ Істра быў узведзены сабор, які дакладна паўтарае формы Іерусалімскага храма Гроба Гасподняга. Вядома, што ў будаўніцтве бралі ўдзел беларускія майстры, якія і ажыццявілі нарэшце архітэктурную ідэю, запазычаную маскавітамі ў палачан двума стагоддзямі раней.

**Ганна ШЫМЕЛЕВІЧ**



© СВАБОДА Падпісны індэкс 63887 E-mail: edit@svaboda.minsk.by СВАБОДА ў Internet: http:\\www.gis.minsk.by Спасылка на газету СВАБОДА абавязковая Наклад 36.190
Нумар падпісаны ў друк 10.06.97 (15:00) Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) ЛВ № 215 Заказ 313